© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022


# Ніва

ГОД I № 11 БЕЛАСТОК, 13 МАЯ 1956 г. ЦАНА 60 гр.


Максім Танк

## Ля пасёлка Леніна

*Памяці паўшых байцоў*
*дывізіі імя Т. Касцюшкі.*

Мінае дзень за днём, за годам год мінае.
Каторы раз трава траншэі пакрывае
І восень засцілае іх лістом,
Дзе на палях, прасторах беларускіх,
Байцы праслаўленай дывізіі Касцюшкі
Спачылі непрабудным сном.

Магілы іх братэрскімі рукамі
Заўжды ўпрыгожаны, прыбраны тут вянкамі
З такіх-жа кветак сонечных, жывых,
Якія, недзе, і ў іх родным краі,
Па-над блакітнай Віслай расцвітаюць,
Ля іх сяліб і сцежак палявых.

Мы зналі іх і шчыра іх любілі,
Мы з імі хлеб свой франтавы дзялілі
У навальнічныя і памятныя дні.
І не было больш велічнай і вернай,
Як іх дарога на Радзіму. З верай
У перамогу крочылі яны.
Не, смерць не ў сілах вырваць іх ніколі
З перадавых радоў байцоў за волю!
Яны заўсёды з намі, як былі!
Няхай прадчасна зрок пагас юначы,
Але з іх кожны будучыню бачыў
На роднай вызваленай зямлі.

Ёсць іх уклад вячысты ў кожнай справе,
У кожнай цэгліне адроджанай Варшавы,
У росквіце васкросшых сёл, палёў.
Іх голас чуеце вы ў песнях новых,
У шуме трактароў, гудках Данбровы,
У рапартах будаўнікоў!

Не плачце, маткі, што ім лёс суровы
Сустрэць прышлося на шляху жыццёвым,
Бо што больш велічным на свеце можа быць,
Як подзвігам азоранае імя,
Як вернасць братняй дружбе і Радзіме,
Як слава іх, што вечна будзе жыць!



*Будынак Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна Вялікага тэатра оперы і балету ў Мінску.* *Фото — ЦАФ*

## Перад Варшаўскім з'ездам Беларускага грамадска-культурнага таварыства

З вялікай радасцю ўспрыняла беларускае насельніцтва горада Варшавы вестку аб утварэнні Варшаўскага Аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства.

Беларусы Варшавы — гэта ў значнай меры студэнцкая моладзь — быўшыя выпускнікі беларускіх сярэдніх школ у Бельску і Гайнаўцы, якія зараз вучацца ў вышэйшых навучальных установах Варшавы — Політэхнічным Інстытуце, Варшаўскім Універсітэце, Галоўнай Школе планавання і статыстыкі, Галоўнай Школе сельскай гаспадаркі, Медыцынскай Акадэміі і іншых.

Пастаянным імкненнем беларускіх студэнтаў ёсць, як найлепш вучыцца і паглыбляць свае веды, падрыхтавацца да адказнай працы ў розных галінах народнай гаспадаркі і культуры. Многія з нашых студэнтаў з'яўляюцца перадавікамі ў навуцы. Напрыклад студэнт Політэхнічнага Інстытута Ю. Бусловіч, які таксама многа займаецца культурнай працай сярод беларускай моладзі. Пераважная большасць нашых студэнтаў прымае актыўны ўдзел у грамадскай працы і, маладзёжнай арганізацыі ЗМП. Многія з іх атрымліваюць стыпендыі і жывуць у студэнцкіх інтэрнатах, дзе яны маюць усе ўмовы для працы і культурнага жыцця. Нашыя першагоднікі жывуць у пасёлку „Дружба", пабудаваным совецкімі будаўнікамі Палаца Культуры і Навукі.

Як-жа непадобнае гэта ўсё да ўмоў, у якіх здабывалі навуку дзеці беларускіх сялян у капіталістычнай Польшчы.

Многія беларускія юнакі і дзяўчаты, якія закончылі навуку жывуць пастаянна ў Варшаве, дзе займаюцца прафесіянальнай працай. Акрамя моладзі пражываюць у Варшаве таксама беларусы - рабочыя і служачыя.

Беларускае грамадства горада Варшавы цікавіцца дасягненнямі беларускай літаратуры. Вялікім попытам карыстаюцца беларускія кніжкі і часопісы, якія прысылаюцца ў Варшаву з Беларускай ССР. Найлепш сведчыць аб гэтым факт, як хутка расходзяцца з полак кніжных магазінаў найбольш цікавыя беларускія кніжкі. Такія часопісы як «Звязда», «Полымя», «Беларусь», «Маладосць» і «Вожык», карыстаюцца вялікай цікавасцю сярод беларускага насельніцтва Варшавы.

Вольны ад заняткаў час, — беларуская моладзь прысвячае арганізаванню культурнай працы. Так напрыклад быў наладжаны літаратурны вечар, прысвечаны творчасці Я. Купалы, арганізаваліся таксама танцавальныя вечары і канцэрты ў якіх ўдзельнічалі, акрамя беларусаў, таксама палякі, рускія і украінцы. Выдатную матэрыяльную і арганізатарскую дапамогу ў арганізаванні гэтых вечароў аказвала Рускае культурна - асветнае таварыства. З другога боку — беларусы прымалі ўдзел у канцэртах і вечарах арганізаваных Рускім культурна - асветным таварыствам. Такія вечары называюцца тут „вечарамі дружбы", таму што ўдзельнічаюць у іх беларусы, палякі, рускія, украінцы, а нават балгары.

Вялікую дапамогу беларускай моладзі аказвае таксама Галоўнае Праўленне Таварыства польска - совецкай дружбы, якое перадавала ў карыстанне нашай моладзі беларускія кніжкі, часопісы і пласцінкі.

Вялікай і радаснай падзеяй у жыцці беларускага насельніцтва Варшавы была дэкада Беларускай Культуры, якая праводзілася ў кастрычніку мінулага года. З вялікай цікавасцю і як правіла, у масавым парадку хадзіла наша моладзь глядзець спектаклі Беларускага Акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Купалы. Пераважная частка нашай моладзі першы раз у сваім жыцці слухала тэатральных пастановак на сваёй, беларускай мове.

Вельмі цікавай у час Дэкады была арганізаваная Саюзам польскіх пісьменнікаў сустрэча з нашымі выдатнымі пісьменнікамі — М. Танкам, П. Пестракам, П. Броўкай, Я. Брылем, А. Куляшовым і І. Шамякінам. Многія з беларусаў, пражываючых у Варшаве, з вялікім хваляваннем сустракаліся з пісьменнікамі, гаварылі з імі, слухалі вершаў у выкананні аўтараў.

Была таксама арганізавана пры выдатнай дапамозе Таварыства польска - совецкай дружбы сустрэча з артыстамі Беларускага тэатра імя Я. Купалы, якія выканалі фрагменты п'есы Я. Купалы «Паўлінка». На гэтай сустрэчы прысутнічалі таксама палякі, рускія і украінцы.

З вялікай радасцю сярод студэнтаў і ўсёй беларускай грамадскасці Варшавы была ўспрынята вестка аб адкрыцці ў Беластоку беларускага штотыднёвіка „Ніва". Ужо праз кароткі час „Ніва" здабыла сабе вялікую папулярнасць і мае сваіх пастаянных падпісчыкаў і прапагандыстаў у Варшаве. Неабходна ў бліжэйшы час распаўсюдзіць падпіску ў Варшаве і пашырыць карэспандэнцыю з „Нівай".

Сур'ёзным недахопам у жыцці беларускага грамадства горада Варшавы было неіснаванне сваёй арганізацыі, якая ладзіла-б даклады і вечары, арганізацыі, якая маглі-б лепш кіраваць культурнай працай сярод моладзі. Таму вялікай і важнай справай, не толькі для моладзі, але для ўсяго беларускага грамадства Варшавы, будзе сарганізаванне доўга чаканай арганізацыі — Варшаўскага Аддзела Беларускага грамадска - культурнага таварыства, што наступіць 13 мая 1956 г.

Няма сумнення, што новы Аддзел Таварыства яшчэ больш узніме ўзровень грамадскай і культурнай працы сярод беларускага грамадства горада Варшавы.

Ю. Т.



*Фрагмент Замковай Плошчы ў Варшаве.* *Фото — ЦАФ*

ШТОТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

© PDF: Kamunikat.org 2022 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2022

